

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 8 (36), 24—31 сакавіка 1993 г

Цана 3 рублі

## 2-Я УСТАЎНАЯ ГРАМАТА ДА НАРОДАЎ БЕЛАРУСІ

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор—Усебеларускі Зьезд 5—17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і баронячы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, склікаяны на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, **заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы** належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4. **Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай** Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў: бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыя**нальна-пэрсанальную аўтаномію**; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, хто самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўста**наўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень.**

Абвяшчаючы ўсе гэтыя **правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай** Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пілнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьці працоўнага люду. А таксама дaложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Устаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы.

**Спаўняючы Камітэт Рады 1-га Усебеларускага Зьезду.**

**Выдана ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року.**




## ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Вітаем усіх Вас з 75-мі ўгодкамі гістарычнага абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Актам 25-га Сакавіка 1918 году, і жадаем, каб Сьвятыя Ідэялы Незалежнасьці, якія былі арыгінальна абвешчаныя патрыётамі беларускага народу 75-ць гадоў таму **назад і зацьверджаныя ды паноўна** аб'яўленыя парлямэнтам Беларусі ў 1991-м годзе, былі як найхутчэй замацаваны для дабра і забясьпечаньня Незалежнай будучыні Рэспублікі Беларусь. Бо, як гаварыў перад сьмерцю наш вялікі беларускі патрыёт, Кастусь Каліноўскі ў 1864-м годзе: «Тагды зажывеш шчасліва, беларускі народзе, калі над Табой акупанта ня будзе»**!!!**

Мы таксама з сумам наглядаем за **дзейнасьцю тых, каторыя ў нядаўняй** прошласьці былі варожым інструмэнтам вынішчаньня беларускага народу як асобнай і гістарычнай нацыі. І ёсьць прыкра бачыць, што іхні чырвоны сьцяг (абліты кроўю мільёнаў замардаваных дзетак Маці-Беларусі) зноў паказваецца на беларускай зямельцы...

**У сувязі з вышэйсказаным**, тут ёсьць дарэчы прыпомніць прыхільнікам камуністычнай партыі, што супрацьлеглыя палітычна-эканамічныя погляды і намаганьні ажыцьцявіць іх для дабра сваёй краіны ёсьць **ДЭМАКРАТЫЯ**. Але дзейнасьць, скі**раваная на зьнішчэньне Незалежнасьці (Жыцьця) Беларусі, ёсьць ЗДРАДАЙ** і ў Канстытуцыі (ці Асноўным Законе) Рэспублікі Беларусь мусіць быць адпаведны раздзел па справах шкоднай унутранай дзейнасьці і забясьпечаньня Свабоды і Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь.

**Таксама тут дарэчы параўнаць** дзейнасьць тых, хто хоча і намагаецца зьнішчыць Незалежную Рэспубліку Беларусь з дзейнасьцю былага палітычнага дзеяча Нарвэгіі Квіслінга, катораму не падабалася Незалежная Нарвэгія і якую ён прапанаваў уключыць у межы і пад кантроль Нямеччыны... Характэрна тут дадаць, што нарвэжскі трыбунал прызнаў дзейнасьць Квіслінга за **здраду** і вынёс яму належны і заслужаны прыгавор сьмерці**!**

Яшчэ раз вітаючы ўсіх Вас з ідэялам Незалежнасьці Беларусі, абвешчаным нашымі патрыётамі Актам 25-га Сакавіка 1918 году,

**З пашанай да Вас,**
**Алесь АЛЕХНІК,**
**Гэнэральны Сакратар Беларускага Аб'еднаньня Аўстраліі.**
Жыве Беларусь!!!
**Сыдней, Аўстралія.**

## Іван ЛАЗУКА
## Зямля дарагая

Тут подыхам лёгкім вятрыска шуміць,
Тут пеняцца росы ў туманах.
Зямля дарагая, удзячнасць прымі,
Прымі ад мяне без падману.

Ах, як ты трымаеш мяне за душу,
Край родны заўсёды мне сніцца.
Зямля дарагая, цябе я прашу,
Дазволь мне табе пакланіцца.

Тут медныя сосны ўзняліся сцяной,
Бярозы стаяць, быццам свечкі.
Табою жыву, дарагою зямлёй,
І веру, што будзеш ты вечнай.

Крыніцы бруяцца празрыстай вадой,
Гучаць для мяне звонкай песняй
Зямля дарагая, ты будзь маладой,
**Заўсёды будзь светлай і веснай.**

## Шаноўныя спадары!

**Вітаю Вас з падыходзячымі** ўгодкамі 75 гадавіны абвяшчэння БНР**!**

Няхай заўжды лунае над нашым вольным краем бел-чырвона-белы сцяг! Жыве Беларусь!

**Народны дэпутат Беларусі Алег ТРУСАЎ.**

## ЗВАРОТ УДЗЕЛЬНІКАЎ УСЕБЕЛАРУСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ГІСТОРЫКАЎ ДА ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

75 гадоў таму назад, 25 сакавіка 1918 года, адбылася знамянальная падзея ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны—Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана самастойнай, незалежнай дзяржавай. Абвяшчэнне БНР было вынікам шматгадовага нацыянальна-вызваленчага і адраджэнскага руху, самаахвярнай барацьбы патрыятычных сіл за інтарэсы беларускай нацыі.

Акт абвяшчэння суверэннай рэспублікі, які мае вялікае гістарычнае значэнне ў лёсе беларускага народа, да гэтага часу далёка не ўсімі асэнсаваны. Тады ўпершыню выразна прагучаў голас яго прадстаўнікоў аб праве беларусаў на самавызначэнне, дзяржаўную незалежнасць, непадзельнасць тэрыторыі і самастойнае развіццё. Беларуская Народная Рэспубліка атрымала палітычнае і юрыдычнае прызнанне шэрагу краін. Станаўленне і развіццё БНР як суверэннай дзяржавы ў сувязі са складанымі аб'ектыўнымі абставінамі не атрымала свайго лагічнага завяршэння. У той жа час гэта адыграла істотную ролю ў стварэнні БССР у студзені 1919 года. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, прынятая Вярхоўным Саветам рэспублікі 27 ліпеня 1990 года, з'явілася заканамерным вынікам імкнення беларусаў да пабудовы сваёй незалежнай дэмакратычнай дзяржавы.

Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў звяртаецца да грамадскасці рэспублікі з прапановай адзначыць гэтую гістарычную падзею. Спадзяёмся, што 25 сакавіка з'явіцца днём яднання беларускага народу, асэнсавання мінулага і згуртавання сіл дзеля адраджэння нашае Бацькаўшчыны.

## 75-м угодкам абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі прысьвячаецца

*Запрашаем усіх на сьвяточную вечарыну, якая адбудзецца ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Коласа.*

**У ПРАГРАМЕ:**

**1-е адзьдзяленьне**

*Прэзентацыя праграмнай харэаграфічнай сімфоніі ў трох частках па аднайменнаму раману Ул. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Аўтар і дырыгент Г. Шэмет. Выконвае зборны сімфанічны аркестр г. Віцебска з удзелам Народнага тэатра пантамімы «МІМ», тэатра-студыі «Катарсіс» абласнога Палаца культуры прафсаюзаў і тэатра-студыі Палаца культуры чыгуначнікаў.*

**2-е адзьдзяленьне**

*Урыўкі з рок-оперы па аднайменнай аповесці Ул. Караткевіча «Ладзьдзя роспачы». Выконвае эстрадна-сімфанічны аркестр беларускага Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа.*

*Выступ гурта «Грамада». Кіраўнік Г. Шэмет.*

**Пачатак 25 сакавіка а 19 гадзіне.**

*Уваход вольны.* **АРГКАМІТЭТ.**

# Нацыянальная самасвядомасць як прадмет сацыялагічнага даследавання

Зараз у Беларусі многія грамадзяне праяўляюць зацікаўленнасць да сваёй гісторыі, да помнікаў нацыянальнай культуры. Усе гэта сведчыць аб тым, што ў рэспубліцы назіраецца некаторы рост нацыянальнай самасвядомасці. Але, згодна з вынікамі даследавання, праведзенага сацыялагічным навукова-даследчым цэнтрам Белдзяржуніверсітэта ў 1991—1992 г.г. узровень нацыянальнай самасвядомасці большай часткі вучнёўскай моладзі пакуль яшчэ даволі нізкі.

Нацыянальная самасвядомасць ва ўсіх сваіх пазітыўных і негатыўных характарыстыках заўсёды накіравана на свой народ. Нацыя пазнае сябе, сваю сутнасць, пачынае разумець сваё месца сярод іншых народаў, свае правы на свабоднае развіццё. З аднаго боку, нацыянальная самасвядомасць з'яўляецца адлюстраваннем аб'ектыўна існуючых прызнакаў нацыі, у тым ліку культуры, гісторыі, мовы; з другога—яна сама здольна стымуляваць развіццё нацыянальнай культуры, садзейнічаць стварэнню новых духоўных каштоўнасцей, падтрымліваць зацікаўленасць да гістарычнага мінулага, да помнікаў культуры, звычаяў і абрадаў.

Такім чынам, індыкатарам нацыянальнай самасвядомасці з'яўляюцца глыбокія веды мовы, гісторыі і культуры свайго народа. Але, як сведчаць вынікі даследавання, толькі 20,3% берусаў свабодна валодаюць беларускай мовай, 59,8%—могуць крыху размаўляць, 18,9%—разумеюць беларускую мову, але не размаўляюць і 1,1%—зусім яе не ведаюць. Амаль такія ж слабыя веды па гісторыі й культуры Беларусі. Толькі 21,5% рэспандэнтаў-беларусаў добра ведаюць гісторыю і культуру; 29,0%—не ведаюць ні той, ні другой, астатнія 43,7%—добра ведаюць штосьці адно: ці то культуру, ці то гісторыю.

Пашыраць веды па гісторыі Беларусі, выхоўваць любоў да беларускай мовы можна, на думку рэспандэнтаў, праз сродкі масавай інфармацыі. Вядучая роля ў гэтай справе павінна належаць беларускаму тэлебачанню і радыё. Але сёння глядзяць беларускае тэлебачанне кожны дзень усяго 20,7% апытаных, 15,5% яго ўвогуле не глядзяць і 62,1% глядзяць некалькі разоў у тыдзень. Беларускае радыё слухаюць кожны дзень 31,4% рэспандэнтаў, 28,3%—зусім не слухаюць, а 38,8% слухаюць некалькі разоў у тыдзень. Такім чынам, паводле вынікаў даследавання, беларускае радыё і тэлебачанне павінны быць вядучымі сродкамі ў прапагандзе нацыянальнай культуры, але на сённяшні дзень яны такімі не з'яўляюцца.

Праводзячы гутаркі са студэнтамі, вучнямі, выкладчыкамі, а таксама вядучымі спецыялістамі ў галіне кіно, тэатра, літаратуры, даводзілася чуць катэгарычную думку аб тым, што ў рэспубліцы няма нацыянальнага радыё і тэлебачання. Нізкі ўзровень большасці тэле- і радыёперадач, на іх думку, звязаны з нізкім узроўнем падрыхтоўкі журналісцкіх кадраў у Белдзяржуніверсітэце, адсутнасцю нацыянальных рэжысёрскіх кадраў. Можна размаўляць на беларускай мове, згодна іх думкі, але ў той жа час не любіць гэтую мову, беларускі народ; не ведаць яго гісторыі і культуры, быць абыякавым да таго, што прапагандуеш, аб чым інфармуеш. І з гэтай думкай нельга не згадзіцца.

Вынікі даследавання сведчаць, што росту нацыянальнай самасвядомасці найбольш спрыяюць наступныя з'явы:

—веды гісторыі свайго народа (66,8%),

—свабоднае развіццё нацыянальнай культуры (57,6%),

—эканамічная самастойнасць рэспублікі (53,0%),

—свабоднае развіццё нацыянальнай мовы (47,0%),

—палітычны суверэнітэт рэспублікі (45,1%).

Сёння Рэспубліка Беларусь мае і эканамічную самастойнасць, і палітычны суверэнітэт.

Вярхоўны Савет рэспублікі таксама прыняў Закон аб мовах і Закон аб культуры. Усё гэта прымушае спадзявацца, што нацыянальная самасвядомасць беларускага народа будзе расці, што больш актыўна будзе ісці працэс адраджэння нацыянальнай гісторыі і культуры.

Крысціна **ЛАПІЧ**,
г. Менск.

# Народ, гісторыя, культура

Дзесяцігоддзямі жыхары Беларусі адчужаліся ад гісторыі свайго краю. У лепшым выпадку ведалі гісторыю сваёй вёскі і свайго роду да дзеда, а гараджане, у сваёй большасці, нічога і зараз не ведаюць і аб мінуўшчыне свайго горада. Палітыка, скіраваная на стварэнне чалавека, у якога «мой адрес—не дом и не улица, мой адрес—Советский Союз», зрабіла сваю справу, выхавала новую агульнасць людзей, для якіх бацькаўшчына і бацькі, а тым больш далёкія продкі, былі дробяззю, якую павінны былі засціць вялікія савецкі народ і Савецкі Саюз. Чалавек, пазбаўлены духоўнай сувязі з родзічамі, з радзімай, з якой ён генетычна звязаны ад нараджэння, адвергнуты ад вытокаў існавання на бацькаўшчыне, непрыкметна дзічэў духоўна. Знаходзячыся ў нязвыклых для сябе ўмовах жыцця, часта сярод чужой культуры і звычаяў, ён таксама і іх разбураў сваёй дзейнасцю ў Якуціі, Манголіі, Афганістане і іншых краях.

Зрэшты, усё гэта не магло не прывесці спачатку да інтуітыўнага, а потым і свядомага ўяўлення аб вялікай небяспецы знішчэння этнасаў. Верагодна, то адна з галоўных прычын хуткага распаду імперыі, якую доўга сілай збіралі князі і цары «под свою руку». І гэты распад натуральны таму, што народы, як і асобныя людзі, імкнуцца праявіць сябе не ў якасці раба, а з лепшага боку, адчуць сябе асобай, набыць павагу суседзяў і зберагчы сваю годнасць. Людзі не жадаюць раствараецца ў шэрай масе невыразна акрэсленага натоўпу. Загінулі шматнацыянальныя імперыі—Рымская, Асманская, Аўстра-Венгерская, Расійская, Брытанская, Савецкая. Распалася Югаславія, ідзе барацьба ў Індыі. Дастаткова выпадковага поваду, каб час ад часу ўспыхвалі ў ЗША бунты, не спыняюцца хваляванні на этнічнай глебе ў Еўропе. Усё гэта паказвае, што этнічныя праблемы, гісторыя і культура народаў патрабуюць пільнай увагі і такту.

У XIX ст. за сваю самабытнасць і свабоду змагаліся чэхі, венгры, палякі, беларусы, балгары, італьянцы і іншыя еўрапейцы. Толькі ў першай чвэрці XX ст. некаторыя з іх дамагліся сваёй поўнай незалежнасці. Працэс гэты ідзе і зараз.

Прыхільнікі імперскага мыслення ніяк не могуць зразумець той факт, што сотні гадоў на Каўказе жывуць побач розныя народы і за гэты час не перабыліся, не зліліся ў адзін маналіт, у якім, здавалася б ім было прасцей бараніцца і жыць. Ёсць нешта, што не дазваляе ім знікнуць з зямнога твару. Гэтае «нешта», відаць, у розныя часы бывае розным, але яно ёсць, існуе і марная справа яго пераадолець. Не так даўно ўсіх каўказцаў называлі татарамі: «Только выскакал—глядь, а перед самым им, на десятину места, стоят татары верхами» (Л. Талстой, «Кавказский пленник»). Казанскія татары, якія не мангольскія прышэльцы, а карэнны мясцовы народ, яшчэ і цяпер усведамляюць сябе «булгарамі», але яны ўжо даўно праштампаваны па неадукаванасці суседзяў як татары. Калі «прыляпляюць» адзін этнонім да розных, няхай і сваяцкіх народаў, узнікае неразуменне таго, што народы гэтыя розныя.

Гэтае неразуменне імкнуцца выкарыстаць сучасныя заядзіншчыкі, спекулюючы на блытаніне старажытных назваў Русь, рускі. Свядома змешваюць розныя народы—беларускі, украінскі і рускі ў адзін, Кіеўскую, Полацкую і Наўгародскую Русь атаясамліваючы з сучаснай Расіяй. Часта спасылаюцца на інтэграцыйныя працэсы ў Заходняй Еўропе. Так, там ідзе інтэграцыя, на якую не прымусілі звышдзяржавы. Апынуўшыся паміж молатам і накавадлам, ЗША і Савецкім Саюзам, Еўропа вымушана была бараніцца ад абодвух волатаў. Адзін з іх прыпыніў сваё існаванне і можа ўвогуле сканаць. Але і другі ці доўга ўтрымаецца? І нам яшчэ невядома, што адбудзецца ў Еўропе без межаў і мытняў. Як сябе адчуюць і што зробяць еўрапейскія народы, калі ўбачаць, як іх векавы ўклад жыцця разбураецца на вачах? Ці захочуць і ці змогуць яны заплаціць сваёй адметнасцю за часовы, але ўжо звыклы дабрабыт? Шматлікія праблемы Бельгіі, Ірландыі, Іспаніі пераконваюць у адваротным. І пытанняў больш, чым адказаў.

Як жа адчувае сябе Беларусь у гэтай кругаверці, які яе шлях? Па-рознаму на гэта адказваюць збітыя з панталыку папярэдняй прапагандай людзі, пазбаўленыя спадчыны, уяўлення аб мінулым, нават мовы. Вырасла пакаленне без пачуцця бацькаўшчыны, яе мінулага. Як заўсёды ў такім выпадку, знаходзяцца асобы, якія гатовы здрадзіць усяму святому свайму, каб толькі прытуліцца да нечага, як ім здаецца, найвялікшага і лічаць сябе, а заадно і астатніх, часткай гэтага найвялікшага. І гэтыя людзі зноў цягнуць нас у імперскі рай. А між іншым гісторыя нагадвае, што Беларусі ніколі не шанцавала, калі яна была ў хаўрусе з больш моцнымі суседзямі—са старэйшым братам ці старэйшай сястрой. Шлях незалежнасці—гаранты магчымага дабрабыту і годнасці кожнага жыхара Беларусі. Але, верагодна, і шлях сусветнага развіцця ўсіх краін у якасці невялікіх самастойных дзяржаў без монстраў, якія сядзяць на чале стала і ўважліва сочаць за паводзінамі тых, хто не паспеў апранацца ў дапасні ўлады.

Усякі рух да самастойнасці спяшаюцца ахрысціць сепаратызмам, а то і нацыяналізмам. Аднак заганы, якія прыпісваюцца нацыяналізму, больш належаць імперыялізму. Сутнасць нацыяналізму ў Еўропе, як пісаў Томаш Масарык, «у поўнай меры развіць маральныя і матэрыяльныя рэсурсы нацыі». У гэтым сутнасць і Адраджэння Беларусі. Але Адраджэнне немагчыма без усведамлення большасцю сваёй супольнасці і гістарычнай прыналежнасці да гэтай зямлі. Гісторыкі нашых суседзяў зрабілі амаль усё, каб разбурыць пачуццё гэтага адзінства наўмысным скажэннем і знявагай гісторыі і культуры нашага краю. Таму ўмовы дыктуюць нам мець і свой погляд на сваё жыццё, культуру і гісторыю, і разглядаць апошнюю так, як успрымае беларус, жыхар гэтага краю, чые продкі жылі тут тысячы гадоў, палівалі тутэйшую зямлю сваім потам і крывёю; разглядаць з пункту гледжання людзей, якія да апошняга часу, нягледзячы на знявагу і абразу, не адцураліся сваіх звычак і сваёй «вясковай», а па сутнасці старажытнай славянскай мовы; з пункту гледжання людзей, якім не трэба «прыляпляць» да іншых этнасаў і культур, бо свая вялікая.

**В. АРЛОЎ,**
**старшыня гарадской рады ТБМ, член рэспубліканскай рады БСДГ.**

